# AVE!ПАРК

СТУДЗЕНЬ 2012 | № 2 | ГАЗЕТА АЙЧЫННАГА КРАЯВІДУ

**НАД ПАРКАМ 40-ГОДДЗЯ КАСТРЫЧНІКА Ў МІНСКУ НАВІСЛА СМЯРОТНАЯ ПАГРОЗА АДМІНІСТРАЦЫЙНАЙ РАСПРАВЫ. БЮРАКРАТЫЯ ГОРАДА ПРАДАЕ ЗЯЛЁНУЮ ЗОНУ КІТАЙСКАМУ ІНВЕСТАРУ ПАД ГАСЦІНІЧНЫ КОМПЛЕКС «ПЕКІН». НАПАЛ ГРАМАДСКАГА СУПРАЦЬСТАЯННЯ НАБЛІЖАЕЦЦА ДА АПАГЕЮ. ЛЮДЗІ АБУРАНЫ ВАНДАЛІЗМАМ УЛАДАЎ І ПАТРАБУЮЦЬ ЗМЯНІЦЬ ПЛЯЦОЎКУ НОВАБУДОЎЛІ.**

**АД РЭДАКЦЫІ.** ПЕРШЫ НУМАР ГАЗЕТЫ ВЫЙШАЎ У 2005 ГОДЗЕ І БЫЎ ПРЫСВЕЧАНЫ 125-ГОДДЗЮ НЯСВІЖСКАГА ПЕЙЗАЖНАГА ПАРКУ. НАГОДА НАСТУПНАГА – **ВЫПУСК SOS**:

**! ЗБЕРАГЧЫ ПРЫРОДНЫ КУТОК СТАЛІЦЫ**

**! АБАРАНІЦЬ 50-ГАДОВЫ ПАРК АД ЭКСПАНСІІ**

## РЭАЛЬНЫ ПАРК !





«Рэальнасць» парку, насуперак афіцыйным заявам, красамоўна пацвярджаюць і гэтыя фатаграфіі, зробленыя ў розны час:

1. «Дай руку, тата!». На паркавай дарожцы (2009)
2. Пасля навальніцы (2010). Частка парка, якая мае быць знішчана
3. Пыжнікі БДУ на першай трэніроўцы (2012)

ЦЯЖКА ЎЯВІЦЬ І ПАВЕРЫЦЬ, ШТО ГЭТЫХ ДРЭЎ І ГЭТАЙ АЛЕІ РАПТАМ НЕ СТАНЕ...

ФОТА *Валер Дранчук*

## НЕРЭАЛЬНАЯ ЎЛАДА ?



Высечкі ў ПАРКУ пачаліся з парушэннем шэрагу ўзгадняльных працэдур і праўных прыродаахоўных норм, на другі дзень Раства Хрыстова (26 снежня ). За два «прыёмы» было знішчана 17 элітных дрэў.

## МЯСЦОВЫ ФАКТАР САМЫ МОЦНЫ

### Што зрабіла грамадскасць?

Мясцовы фактар супрацьстаяння спрацаваў як самы моцны і выніковы. За бяспеку пражывання, інтарэсы сваёй будучыні падняліся жыхары прылеглых кварталаў горада. Быў складзены ліст, які за лічаныя гадзіны падпісалі сотні людзей, сярод іх восем ветэранаў вайны. Сігнал трывогі пайшоў наверх у літаральным сэнсе – «чырвоны дом» недалёка, на горцы. Але спачатку дрэвы ад высечкі жанчыны баранілі сабой, захіналі, нібы жывых. Першую атаку – на другі дзень Раства (!) – удалося адбіць толькі назаўтра. Гэта быў несумненны поспех, які не заспакоіў, а толькі даў веры ва ўласныя сілы дзеля самаабароны. Далейшыя крокі – зварот у мясцовую пракуратуру (пытанне на разглядзе), першы выступ на tut.by-tv, затым другі, сустрэчы ў Ленінскім райвыканкаме і Мінпрыроды, дзяжурствы ў ПАРКУ, заява на правядзенне пікета. ■ *Працяг на адвароце*

## ЦІХАЙ САПАЙ, ХАВАЮЧЫ ПРАЎДУ

### Што зрабіла ўлада?

Выбар пляцоўкі пад інвестыцыйны праект выглядае не так рызыкоўна, як нахабна. Гэта выклік усім жыхарам горада. Градус супраціўлення быў яўна недаацэнены распрацоўшчыкамі інвест - праекта. ■ *Працяг на адвароце*

Эйфарыя і зман трыумфальнай заваёвы горада сённяшнім наменклатурнай рацыю не даў адчуць пагрозы народнага гневу *тут*, дзе душа і зямля апынуліся задужа паяднанымі. Выбух рашучага пратэсту раптам пакінуў душныя кухні і выйшаў туды, дзе карані і кроны, дзе зямля продкаў, няхай сабе і аднаго-двух пакаленняў. Палацы «ва ўсходнім стылі» на месцы ПАРКА, дзе раса ў летнюю спёку трымаецца да паўдня, агапомшылі ціхі раён над Свіслаччу. Навам сон такі не пагаўся б жаданым... А тут ужо і металічая клетка, за якой у жудаснай рэальнасці ўраз апынуліся сотні дрэўарыштантаў, тут жа і свае прыспешнікі з бензапіламі ды трактарамі-прычэпамі. Пілуй, грузі, зачышчай. Цярабі дарогу, браце беларус, да «лепшага» жыцця...

Пра «сон наяве» горад уведаў надзвычай хутка. Улада мусіла рэагаваць і... разгарнуць кампанію дэзінфармацыі, падмены паняццяў, хлусні – набор даволі знаёмы. На прэс-канферэнцыі ў гарвыканкаме, на якую чамусьці не запрасілі прадстаўнікоў альтэрнатыўнага боку, галоўны архітэктар Мінска А.Пятроў кажа (вы толькі паслухайце!): што ПАРКА амаль няма, і як яго завуць – ніхто не ведае, і з выгляду ён брыдкі, хадзіць па ім жудасна і небяспечна – ну самы час добраўпарадкаваць, падсадзіць дрэў, ачарнуць увагай і клопатам!.. Але ж казаць трэба І нязручную праўду – інвестпраект на мільёны долараў урэз прагныя ПАРК, хіба што рожкі ды ножкі пакіне. І ўлада пра гэта цудоўна ведае! Але абрала больш «правераны» шлях – утойванне сутнасці канфлікту: гаварыць не пра забудову зялёнай часткі гарадской айкумены, а пра яе небывалы росквіт на карысць жыхароў. Па адным тым, як старанна хаваюць ад нас «шыла ў мяшку» – размяшчэнне ў ПАРКУ гасцініцы-монстра, добра відаць, што тут ёсць насамрэч: рашэнне адыёзнае, але сырое і спешнае, супярэчыць здароваму сэнсу. Указ А.Лукашэнкі, які «ўпаўнаважыў» гэты праект, а дакладней, якая база – ці то сацыяльная, ці то нарматыўная – жадае быць лепшай. Амбітныя чыноўнікі забяспечылі яе наборам брутальных рызык і парушэнняў. Цяпер, адчуўшы пад сабой гарачае, ратуюць пасады і рэпутацыю, але ўпарта стаяць на сваім, напускаючы дабрадзейнага дыму ды хаваючы праўду аб рэальных пагрозах. Варта жалю, што тактыку маніпуляцый і выгароджванняў падхапілі і некаторыя СМІ, намагаючыся ўмацаваць вельмі хісткую пазіцыю ўлады.



«Фіга на паперцы» ад гарадскіх улад: палацы гасцінічнага комплексу «Пекін» у парку 40-годдзя Кастрычніка

Інвестыцыйныя гамовы, кштапту будаўніцтва «Пекіну» ў ПАРКУ Мінска, даюць беларускаму грамадству паказальны ўрок: БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫМІ! *В.Д.*

## ГРАМАДСКІЯ СЛУХАННІ

### «ПАКІНЬЦЕ ПАРК У СПАКОІ, ЗНАЙДЗІЦЕ ІНВЕСТАРУ ІНШАЕ МЕСЦА!», --

менавіта гэтае патрабаванне выстаўляюць мясцовыя жыхары і грамадскія ахоўнікі парка і прапануюць шэраг альтэрнатыў, адна з якіх будаваць гасцініцу на месцы аўтастаянкі – так званыя «саўмінаўскія гаражы», што ў самым тупіку вуліцы Чырвонаармейскай

*Наталля Алісевіч,* гаворачы пра безумоўнае захаванне ПАРКА, першай прычынаю называе агрэсіўнае атачэнне гэтага раёна: заводскія карпусы, аўтадарожная сетка, чыгунка, інш. «Хакейны чэмпіянат, – дадае яна, – будзе доўжыцца пару тыдняў, а для нашых дзяцей не стане цудоўнага стадыёна...» *Вольга Пачкаева* звяртае ўвагу на тое, што грамадскасць не ведае, што наогул плануецца размясціць. «Прадстаўляючы праект, нам кажуць пра гасцініцу «ва ўсходнім стылі» – усё! А ў інтэрнэце бачым «карцінкі», якія часам выклікаюць не лепшыя пачуцці. Хіба можна заставацца абыякавым да таго, што ў цябе пад вокнамі».

«Мы адстойваем ПАРК і звязваем гэтае права грамадзян Беларусі з Орхускай канвенцыяй, дзе яно замацавана ў шэрагу прынцыпаў, галоўны з якіх – доступ да інфармацыі і правасуддзя», – заўляе *Уладзімір Прус.*

## ХРОНІКА

17 студзеня групай актывістаў пададзена заяўка на правядзенне пікета «ў абарону парка 40-годдзя Кастрычніка і права мясцовых жыхароў на прыняцце рашэння, якое не супярэчыла б іх інтарэсам, не пацягнула шкоды і ўрону ў сувязі з выкананнем інвестыцыйнай дамовы – будаўніцтвам гасцінічнага комплексу «Пекін» на запланаваной тэрыторыі». Маецца на мэце максама інфармаванне людзей пра вынікі зваротаў у інстанцыі і далейшы ўдзел грамадскасці ў вырашэнні канфлікту.

Ленінскі райвыканкам сталіцы нападзіў сустрэчу актывістаў, ахоўнікаў парка з прадстаўнікамі гарадскіх і рэспубліканскіх службаў, адказных за прыняцце рашэння. Пратакол сустрэчы перададзены гарадскім уладам. Як палпумачылі арганізатары, заўвагі і меркаванні з боку грамадскасці могуць быць улічаны падчас прыняцця канчатковага рашэння. Адказ мяркуецца атрымаць 26-27 студзеня.




Нашы людзі на TUT.BY.
У студыі падчас прамога эфіру
http://news.tut.by/tv/269488.html

! Для тых, хто сочыць за падзеямі: тэл. (29) 656 66 70 velcom

## РЭАЛЬНЫ ПАРК

Кармушкі, з любоўю і стараннем развешаныя на дрэвах безыменнымі сябрамі гарадской арнітафауны – яшчэ адно сведчанне праўдзівасці ПАРКУ, які ўлады спрабуюць «апусціць» да статусу бязроднага і занядбалага. *Люты 2010*







На здымку ў цэнтры – маталы дубовы гай, прыкладны ўзрост 25-30 гадоў. *Жнівень 2005;* справа: так выглядае ПАРК з вокнаў пракуратуры Ленінскага раёна. *Студзень 2012*

ФОТА *Валер Дранчук*



AVE!ПАРК PDF - версія

Дызайн, выкананне: В.Дранчук

Газета хуткага рэагавання на гаспадарчае асваенне, звод і руйнаванне краявіду ў Айчыне-Бацькаўшчыне Беларусь. Заснавальнік і рэдактар Валер Дранчук

220 088 Іванаўская 38-16 Мінск v.dranchuk @ gmail.com